**Гродна**
№21 (432),
15 лістапада 2015

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# АБП КАНДРУСЕВІЧ: ДАКТРЫНА АБ СЯМ'І НЕ ЗМЯНЯЕЦЦА




*Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч: "Сем'і павінны быць моцныя сваёй верай"*

**Пра Сінод на тэму сям'і, "беларускую" мадэль сям'і, а таксама пра тых, хто аказаўся ў складанай, нязгоднай з навукай Касцёла сітуацыі, з ксяндзом арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам размаўляў ксёндз Павел Салабуда.**

працяг на с. 4–5

## Каляндар падзей

***16 лістапада***
*ўрачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, заступніцы дыяцэзіі.*

***22 лістапада***
*ўрачыстасць Хрыста, Валадара Сусвету. Дзень малітвы ў інтэнцыі выхавацеляў, выкладчыкаў і клерыкаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.*

***22 лістапада***
*ўспамін св. Цэцыліі, заступніцы арганістаў і касцёльных хораў.*

***29 лістапада***
*I Нядзеля Адвэнту. Заахвочваем набожна і цвяроза перажыць гэты перыяд.*

## Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***23 лістапада***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

## Ружанцовыя інтэнцыі:

***Лістапад***

*За чысцовыя душы і развіццё ў парафіях набажэнства за памерлых святароў і вернікаў.*

*Аб стварэнні таварыстваў малітоўнай дапамогі душам чысцовым.*

## Інтэрнэт-апытанне
**www.grodnensis.by**

***Ці верыце Вы ў тое, што пасля смерці чалавека чакае вечная ўзнагарода ці кара?***

- *так*
- *не*
- *цяжка сказаць*


**выкажыся**



*Падчас урачыстасцей з нагоды 25-годдзя з часу заснавання ВДС у Гродне*

# ДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ СЕМІНАРЫСТА

Для большасці людзей навучэнцы духоўных семінарый – асобы загадкавыя. Яны носяць строгую форму і вядуць закрытае ад староннніх вачэй жыццё. А так цікава, як выхоўваюць будучых святароў! Заўтра яны – нашы правадыры на шляху да спасціжэння святасці.

працяг на с. 3

**Эўхарыстыя – гэта "школа чалавечай інтэграцыі, якая не баіцца выклікаў" – папа Францішак**




## XXXIII НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мк 13, 24–32**

Езус сказаў сваім вучням: "У тыя дні пасля таго ўціску зацьміцца сонца, і месяц не дасць святла свайго. І зоркі будуць падаць з неба, і сілы нябесныя пахіснуцца. Тады ўбачаць Сына Чалавечага, які будзе ісці на аблоках з вялікай сілай і ў славе. Ён пашле тады Анёлаў сваіх і збярэ выбраных сваіх ад чатырох вятроў, ад краю зямлі да краю неба. Вучыцеся на прыкладзе смакоўніцы: калі галінка яе становіцца ўжо мяккай і распускаецца лісце, ведаеце, што блізка лета. Так і вы, калі ўбачыце, што адбываецца гэта, ведайце, што блізка Ён, пры дзвярах. Сапраўды кажу вам: не міне пакаленне гэтае, пакуль не адбудзецца ўсё гэта. Неба і зямля праміnуць, а словы Мае не праміnуць. А пра дзень той або гадзіну ні анёлы ў небе, ні Сын, ніхто не ведае, а толькі Айцец".

## ЧАКАННЕ ЗДЗЯЙСНЕННЯ НАДЗЕІ

Евангелле вучыць нас мудрасці чакання. Гэтым яно нібы змяшчае нас паміж рэчаіснасцю і тым, што павінна адбыцца. Ці карысна для нас такое "вісенне" паміж рэальным жыццём і здзяйсненнем надзеі? Ці не рызыкуем мы такім чынам аддаленнем, уцёкамі ад штодзённага жыцця? Пан Езус, калі гаворыць аб натуральным рытме прыроды, не толькі нас супакойвае, але і звязвае з рэальным жыццём, якое, каб быць сапраўдным, павінна быць у нейкай ступені пагружана ў чаканне свайго канчатковага здзяйснення. А здзейсніцца яно ў момант, калі пачнецца стан вечнасці, калі мы дасягнём дасканаласці. Гэта будзе магчыма пры паўторным прыходзе Збаўцы – Сына Чалавечага на зямлю. Тады споўніцца кожнае жаданне, скончыцца ўсякае чаканне.

Для нашага часу характэрна, што мы ў значнай ступені згубілі гэтае асноўнае вымярэнне хрысціянскага чакання. Пры адначасовым, сталым нараканні на недасканаласці нашага існавання. Парадаксальна – чым больш мы лічым навакольны свет нашым апошнім прызначэннем, чым больш мы з ім злучаемся, з тым большай цяжкасцю нам прыйдзецца змірыцца з праўдай аб мінучай рэчаіснасці, аб абавязковасці песціць надзею на канчатковае яднанне з Богам. Евангелле ёсць і застанецца Добрай Навінай ажно да канчатковага здзяйснення нашага чакання.

## ХРЫСТА, ВАЛАДАРА СУСВЕТУ

**Ян 18, 33б–37**

Пілат спытаўся ў Езуса: "Ты Кароль юдэйскі?". Езус адказаў яму: "Ці ад сябе ты кажаш гэта, ці іншыя сказалі табе пра Мяне?". Пілат адказваў: "Ці ж я юдэй? Твой народ і першасвятары выдалі Цябе мне. Што Ты зрабіў?". Езус адказаў: "Валадарства Маё не з гэтага свету. Калі б з гэтага свету было Маё Валадарства, то слугі Мае заступіліся б за Мяне, каб Я не быў выдадзены юдэям. Але цяпер Маё Валадарства не адгэтуль". Пілат сказаў Яму: "Значыць, Ты Кароль?". Езус адказаў: "Ты кажаш, што Я Кароль. Я для таго нарадзіўся і для таго прыйшоў на свет, каб засведчыць аб праўдзе. Кожны, хто ад праўды, слухае голас Мой".

## ЦЯЖКАЕ ВАЛАДАРАННЕ

Дзіўна – Пан Езус, хоць Ён у кайданах, пад пагрозай прысуду страшнай смерці, прыніжаецца да дыялогу з Пілатам. Ён – Валадар неба і зямлі – вядзе размову з рымскім служачым. Можа, Пілат і паходзіў з вышэйшага чыноўніцкага рангу, таму што ад імя цэзара кіраваў кавалкам Імперыі, але быў усяго толькі служачым, якога імператарскі капрыз мог адклікаць з пасады адным словам, адным дакументам. Пілат валодаў кавалкам Імперыі, якая ўжо тады праяўляла сімптомы ўпадку. Езус даваў сведчанне аб валадарстве незнішчальным, вечным. І Яго ўлада расцягвалася (і сягае далей!) да самых далёкіх межаў сусвету. Несуразмернасць паміж Пілатам і Асуджаным настолькі ўразлівая, што здаецца неверагоднай! А аднак, малы, самаўпэўнены Пілат паслаў Валадара сусвету на страшную смерць. І што яшчэ больш ашаламляльна – Валадар сусвету прыняў гэты прысуд!

У кожным нашым доме ёсць крыж – бачны знак драматычных вынікаў сустрэчы Езуса з Пілатам. Крыжы мы ставім на нашых дарогах. Ці задумваемся мы часам над сэнсам прысутнасці крыжа ў нашым жыцці? Іншымі словамі, наколькі праўда, аб якой сведчыў Езус, становіцца фундаментам нашага жыцця?

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Мы ў Валадарстве Езуса



**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*

Праз некалькі дзён мы будзем перажываць урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету. Гэта будзе апошняя нядзеля літургічнага года, пасля якой мы распачнём перыяд Адвэнту, які будзе таксама пачаткам Года міласэрнасці. Многае перад намі, але найперш варта прыгадаць сабе, што Езус валадарыць у нашых сэрцах, з'яўляецца Валадаром нашага жыцця, усяго, што з намі звязана і Богам паблаславёна.

Валадарства Езуса не з гэтага свету, яно вечнае. Пан Езус сам кажа пра гэта: "Валадарства Маё не з гэтага свету" (Ян 18, 36). Гэта дэкларацыя Езуса аб пазазямным яго характары. Як хрысціяне мы належым Хрысту і Яго Валадарству. Часта ў малітве Панскай мы прамаўляем словы: "Прыйдзі Валадарства Тваё". Але ці ўсведамляем мы, пра якое Валадарства тут гаворыцца? Тэарэтычна мы ведаем, што гаворка ідзе пра Валадарства не з гэтага свету, якое характарызуецца духоўнымі вартасцямі. Але на практыцы – як жа часта – не хочам пра гэта думаць. Мы забываемся аб тым, што Езус атрымаў як Цар не дыядэму і пурпурную мантыю, а іншыя знакі ўлады. Забываемся, што Ён змагаўся за сваё Валадарства, але не ў мінучым сэнсе. Гэта своеасаблівы парадокс, які Хрыстос прыгадвае нам сёння: Яго Валадарства не з гэтага свету. Мы назіраем вялікую зацікаўленасць тысяч людзей справамі ўлады. Лепш за ўсё гэта бачна падчас выбараў. Чалавек заўсёды хацеў бы быць правіцелем, які дае распараджэнні. Езус як Цар інакш выконвае сваю паслугу, маючы на мэце дабро для кожнага чалавека.

Як мы павінны ганарыцца тым, што належым Хрысту. Як павінны цешыцца і дзякаваць добраму Богу за ласку веры, атрыманую на святым хросце, за тое, што з'яўляемся Яго дзецьмі. Як жа моцна мы павінны быць зацікаўлены ў тым, каб мець імя добрага хрысціяніна. Гэтае добрае імя мы павінны захаваць. І як у сям'і ўсе любяць адзін аднаго і дапамагаюць адзін аднаму, так і ў вялікай Божай сям'і мы павінны шанаваць адзін аднаго і дапамагаць адзін аднаму. Усе – усім, а асабліва малодшым, слабейшым і тым, каму больш неабходна дапамога.

Езус становіцца спецыяльным Божым пасланнікам. Гэта дзякуючы Яму людзі ўсіх часоў могуць атрымаць незвычайную, абсалютна небывалую ласку – могуць чуць самога Бога і мець доступ да "нябесных спраў". Так кожны з нас можа пазнаць, якая цудоўная Божая праграма, што датычыцца жыцця кожнага з нас. Хрыстос сваім жыццём пацвярджае, што "валадарыць" – значыць годна і шчыра служыць. Можна на чарговы Адвэнт ці нават больш, на цэлы юбілейны Год міласэрнасці ўзяць гэтыя словы ў якасці дэвіза свайго жыцця. Сёння вельмі патрэбны такія людзі, якія будуць сваімі ўчынкамі ўказваць тут, на зямлі, Валадарства Езуса. Варта жыць у праўдзе і слухаць голасу Хрыста. Трэба ўмець схіліцца, сагнуць калені, укленчыць і памыць камусьці ногі. Каб добра жыць, цешыцца радасцю кожнага перажытага дня, неабходна абраць Хрыста сваім Валадаром.

**Глянь на сябе. Дзякуючы Пану Езусу кожны з нас з'яўляецца царом. Аднак, каб быць добрым царом і добра валадарыць, трэба па-сапраўднаму служыць іншым.**




*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*

*Знешні выгляд святыні*

Вёска вядома з 1529 г., калі Януш Касцевіч, ваявода падляшскі, разам са сваёй жонкай Марыяй заснаваў тут парафію (перанёс цэнтр парафіі з Дубічаў) і пабудаваў першы драўляны касцёл, асвечаны пад тытулам Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. мучаніка Юрыя. Пазней Нача належала Кішкам, Радзівілам.

Апошні драўляны будынак святыні быў пабудаваны намаганнямі кс. Юзафа Кучэўскага і парафіян у 1756 г. Гэта быў велічны трохнававы храм з пяціграннай апсідай, арыентаваной на захад, фланкаванай дзвюма сакрыстыямі, паўднёвая з якіх была пашырана. Касцёл быў накрыты двухсхільным гонтавым дахам з застрэшкамі і вальмамі над прэзбітэрыем і ўвенчваўся васьміграннай шатровай вежай над уваходам і дастаткова вялікай чацверыковай сігнатуркай над алтаром. У галоўным алтары была змешчана вядомая цудамі фігура Пана Езуса Антокальскага.

У 1780 г. у Начы, якая належала палкоўніку Тамашу Масальскаму, была збудавана капліца.

Але драўляныя пабудовы не могуць стаяць вечна, і ў 1910 г. на сродкі вернікаў на ранейшым месцы ў цэнтры вёскі ўзнёсся велічны дзвюхвежавы касцёл з вонкавай чырвонай цэглы ў стылі мадэрн з рысамі неаготыкі і неараманікі. Святыня трохнававая з двухнавяровым трансептам (унізе знаходзяцца сакрыстыі, наверсе – малітоўныя ложы) і паўкруглай апсідай. Галоўны фасад пазначаны дзвюма стромкімі пяціярусными (верхні ярус васьмерыковы, ніжнія чацверыковыя) вежамі-званіцамі пад высокімі гранёнымі спічакамі. Касцёл багата дэкараваны профільнымі паясамі, нішамі, ступеньчатымі контрфорсамі, пінаклямі, сігнатуркай з фігурнай цэглы. Вітыя лесвіцы ў кутах трансепта, што вядуць на малітоўныя ложы, у аб'ёме пераходзяць таксама ў васьмігранныя шатровыя вежачкі. Касцёл быў кансэкраваны 26 красавіка 1927 г.

У інтэр'еры цэнтральная нава перакрыта парусными скляпеннямі на падпружных арках, бакавыя навы – крыжаста-парусными. Упрыгожваюць малітоўную залу тры разьбяныя алтары, якія таксама нясуць у сабе рысы неаготыкі і неараманікі. У галоўным алтары-трыфорыуме і сёння стаіць цудадзейная фігура Пана Езуса, яе нішу запаўняюць шматлікія воты. Алтар дэкараваны неагатычнымі пінаклямі і спічакамі, у бакавых нішах трыфорыума ўсталяваны паліхромныя фігуры святых апосталаў Пятра і Паўла. Бакавыя алтары двух'ярусныя: у левым змешчаны абраз Езуса Міласэрнага, наверсе – абраз Хросту Пана, у правым – фігура Маці Божай пад абразом св. Тэрэзы.



*Галоўны алтар*

Касцёльны ўчастак у XIX ст. быў абнесены каменнай пабеленай агароджай з трохпралётнай уваходнай брамай. Справа ад брамы, амаль у куце агароджы, захавалася трох'ярусная званіца (ніжні ярус бутавы, сярэдні цагляны, верхні драўляны пад чатырохсхільным дахам), якая засталася яшчэ ад комплекса драўлянага касцёла і выкарыстоўваецца як сховішча. Каля касцёла сярод іншай навакольнай шляхты пахаваны Тэадор Нарбут (+1864), вядомы гісторык, археолаг, ваенны інжынер, і Станіслаў Баніфацый Юндзіл (+1847), доктар багаслоўя, прафесар батанікі і заалогіі.

Праз дарогу, насупраць увахода на касцёльную тэрыторыю, захаваўся будынак былога парафіяльнага цэнтра. Збудаванне аднапавярховае, цаглянае і атынкаванае, пад высокім двухсхільным дахам, цяпер выкарыстоўваецца як вясковы клуб і бібліятэка. Злева ад касцёльнага ўчастка, трошкі далей, захаваўся і драўляны будынак старой плябаніі, але паколькі тут змешчаны дзіцячы садок, парафіі сёння даводзіцца будаваць новы будынак – ужо каменны, адразу за агароджай, таксама злева ад касцёла.

А вось родавая капліца-пахавальня Шукевічаў, узведзеная за сядзібай (не захавалася) і возерам, на захад ад касцёла, па-ранейшаму знаходзіцца ў зруйнаваным стане. Пабудавана капліца ў класічным стылі з цэглы і бутавага каменю, верагодна ў сярэдзіне XIX ст. Яна ўяўляе сабой прамавугольны ў плане будынак пад двухсхільным дахам. Уваход пазначаны чатырохкалонным порцікам, інтэр'ер, перакрыты плоскай падшыўной столлю, асвятляўся паўкруглымі вокнамі, на трохвугольным франтоне алтарнага фасада выкладзены крыж з тэўтонскімі promнямі, пад капліцай зроблена крыпта, перакрытая цыліндрычным скляпеннем. Тут быў пахаваны вядомы археолаг, этнограф, краявед і фальклярыст В.А. Шукевіч (1852–1919).

З пасляваеннага часу капліца знаходзілася ў занядбанні, працягваючы разбурацца. Былі страчаны дах, перакрыцці, франтон над уваходам, сталярка, праваленa скляпенне крыпты. Аднаўлена капліца была толькі ў 2005 г. і цяпер зноў дзейнічае.

Начская парафія заўсёды ўваходзіла ў склад Радунскага дэканата, колькасць парафіян напрыканцы XIX ст. перавышала 8300 вернікаў. Да 1939 г. касцёл па-ранейшаму ўзгадваўся пад падвойным тытулам Беззаганага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. мучаніка Юрыя. Сёння карыстаюцца толькі першым тытулам, марыйным.

# Дзень з жыцця семінарыста

● працяг са с. 1

**Прапануем Вам перажыць адзін восеньскі дзень з алюмнам 5 курса Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі Яўгенам Ціханам. Яго нататкі перадаюць атмасферу Божай навучальнай установы і служаць для нас узорам сапраўднага быцця.**



Навучэнцы семінарыі атрымліваюць усебаковую фармацыю: духоўную, інтэлектуальную і душпастарскую

**Пятніца, 6 лістапада 2015 года**

6.30 Тры званкі. Я прачнуўся ў пазітыўным настроі. Пануючая ў семінарыі цішыня пабуджае да малітвы.

7.00 Супольная Літургія гадзін. Пачуццё еднасці і ўдзелу супольнасці ў службе Божай. Літургія велічна ўводзіць у сам культ Бога і ўцягвае ўсіх у праслаўленне Трыадзінага Бога. Сёння мы разважалі над Евангеллем паводле св. Лукі (Лк 16, 1–8) аб прадпрымальным эканоме. На першы погляд, багаты чалавек з прыпавесці хваліць эконома за несправядлівасць. Але даходзячы да сутнасці справы, мы даведваемся, што ён хваліць эконома не за падман, а за тое, што ён знайшоў выхад у складанай сітуацыі. Залішняя разважлівасць прыводзіць да хітрасці, таму варта вучыцца сумленнасці ў адносінах да ўсіх.

7.30 Святая Імша. Сёння яе ўзначаліў кс. бп Юзаф Станеўскі. Маліліся ў інтэнцыі памерлых ахвяравальнікаў, дабрадзеяў, прафесараў і выхаванцаў нашай семінарыі. Ксёндз біскуп сказаў: "Мы ствараем супольнасць у адной веры жывых і памерлых. Мы злучаны з імі праз любоў Найсвяцейшага Сэрца Езуса".

8.30 Сняданак.

9.00 Лекцыя па маральнай тэалогіі. Аналізуем IV запаведзь. Я прыйшоў да высновы, што Бог не загадвае выконваць запаведзі, а перш за ўсё паказвае доказы сваёй любові. Таму выкананне Божых запаведзей з'яўляецца адказам на Божую любоў. Падобна і IV запаведзь гаворыць пра ўдзячнасць. На любоў бацькоў мы павінны таксама адказваць любоўю.

10.55 Лекцыя па Старым Запавеце. Біблійныя кнігі заключаюць у сабе шматвекавую гісторыю. І гэта гісторыя не толькі Ізраіля, але і навакольных народаў. У святых кнігах бачны сляды розных традыцый і цэлых зменлівых глабальных эпох. Развіццё тэалогіі рыхтуе падмурак для Новага Запавету, а дынамічнае і жывое Слова ў іншыя часы чытаецца актуальна. Усё гэта робіць Святое Пісанне Божай скарбніцай, пазнаць якую на 100% немагчыма. Тэмай сённяшняга занятку па Старым Запавеце была Кніга прарока Ісаі. Мы вывучалі яе гістарычны фон і сам змест.

13.45 Малітва на працягу дня. Літургія гадзін у пятніцу пагружае ў Муку Пана. Працягам гэтага разважання з'яўляецца адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту пасля абеду і роздум над пакутамі Хрыста.

14.00 Абед.

15.00 Індывідуальнае ўшанаванне гадзіны Божай міласэрнасці. Згодна з традыцыяй семінарыі, спаведзь у гэты час з'яўляецца нібы адчувальным дотыкам Крыві Пана, што ачышчае ад він і перамяняе душу на падабенства Хрыста, які ахвяраваў сябе за нас. Я ўдзячны Богу за ласку споведзі, якую мы можам выкарыстаць і ачысціцца.

15.30 Трываючы ў актаве Усіх Святых, мы разам з братамі наведалі пабернардынскія могількі, каб памаліцца за памерлых, атрымліваючы за іх адпуст. Я падумаў аб тым, што цішыня, якая трывае ля магіл ксяндзоў і многіх вернікаў, з'яўляецца знакам чакання ўваскрашэння. Гэта цішыня, якая прадвяшчае вялікі трыумф. Калі Пан прыйдзе, тады выйдуць і слугі Яго ў трыумфальным шэсці.

16.30 Студыум – час для індывідуальнага навучання. Час на чытанне і вучобу найбольш плённы пасля малітвы. Тут паглыбляецца вера і ўзрастае любоў да Бога, бо мы пазнаём творы любові Стварыцеля і, у суме, нават саму Яго сутнасць. Пачутае на лекцыях слова павінна ўкараняцца і расці.

18.45 Вячэра.

19.00 Выкананне абавязкаў. Я ўдзельнічаў у падрыхтоўцы літургіі і Навэнны да Маці Божай на наступны дзень. Зрабілі падсветку для вітража. Гэта Божая служба, таму што мы робім усё гэта на карысць супольнасці, у якой жывём. Мы служым іншым, як Хрысту. Часам здараецца, што вечарам неабходна дарабіць тое, чаго нельга адкладваць на заўтра. Астатні час становіцца творчым часам, мы дзейнічаем з перспектывы таго, што ўжо было сёння зроблена.

21.00 Пасля прагулкі на свежым паветры і адпачынку ад заняткаў у мяне ёсць час для духоўнага чытання і клопату пра свой унутраны свет.

21.45 Асабістая малітва. Я дзякую Богу за дзень, прыемную цішыню і ўсе ўдзеленыя мне ласкі. Малюся за маладых людзей, паклікане да святарства якіх падаўляецца сучасным светам. Няхай Божы голас будзе чутны ў глыбіні іх душаў.

22.30 У семінарыі згасае святло. Алюмны адпачываюць, каб з новымі сіламі распачаць заўтрашні дзень. За паўтары гадзіны да сну пачынаецца silentium sacrum – святое маўчанне, якое клерыкі захоўваюць да самай раніцы. Галоўная яго мэта – суцішыцца і злучыцца ў думках з Богам.

### Факты

**Семінарысты Гродзенскай ВДС моляцца на трох мовах – беларускай, польскай і лацінскай. Тройчы на дзень адгаворваюць "Анёл Панскі". Штодня разважаюць над Святым Пісаннем. Тры разы на дзень робяць рахунак сумлення. У сярэднім, маюць па пяць навучальных дысцыплін на дзень. Пасля абеду – вольны час і тэрмін для самастойнай падрыхтоўкі да наступных заняткаў. Двойчы на тыдзень семінарысты выходзяць у горад. Як правіла, групамі па 2-3 чалавекі. У семінарыю вяртаюцца як дамоў. 22 лістапада – урачыстасць Хрыста, Валадара Сусвету. Дзень малітвы ў інтэнцыі выхаваўцаў і клерыкаў Гродзенскай ВДС.**

*Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла*

## Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Што азначае несці праз уласнае жыццё і на самім сабе Божую пячаць? Кажа нам пра гэта зноў св. апостал Ян: азначае, што ў Езусе Хрысце мы сапраўды сталі дзецьмі Божымі (параўн. 1 Ян 3, 1–3). Ці ўсведамляем мы гэты вялікі дар? Ці памятаем, што на хросце мы атрымалі "пячаць" нашага нябеснага Айца і сталі Яго дзецьмі? Менавіта гэта з'яўляецца коранем нашага паклікання да святасці! Святыя, якіх мы ўспамінаем, з'яўляюцца менавіта тымі, хто жыў у ласцы ўласнага хросту, хто захаваў некранутую пячаць, жывучы як Божыя дзеці, стараючыся пераймаць Езуса; і цяпер дасягнуў мэты, таму што нарэшце "бачыць Бога такім, які Ён ёсць".*

*"Анёл Панскі" са Святым Айцом, 01.11.2015*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Чалавек створаны Богам і мае перад сабой тры апошнія рэчы: неба, чысцец або пекла. Выбар залежыць ад яго самога. Каб трапіць на неба, неабходна гэтага жадаць і моцна пастарацца. Цяжка сабе ўявіць, каб хтосьці трапіў на неба, не хочучы гэтага. Бог шануе свабоду кожнага чалавека і ні да чаго яго не змушае. Ён нікога праз сілу не робіць шчаслівым, хаця прагне збаўлення ўсіх і ўсім дае для гэтага адпаведныя ласкі і сілы. Чалавек толькі павінен іх адпаведным чынам выкарыстаць.*

*Штодзённае жыццё сведчыць аб тым, што дасягнуць неба – гэта нялёгкая справа, бо ўвесь час неабходна змагацца са спакусамі, з нядобрымі схільнасцямі і слабасцямі. Мы ведаем, што такое дабро, але адначасова чынім зло, а кожны грэх цягне за сабой пакаранне. Рознымі спосабамі на зямлі мы можам папрасіць у Бога прабачэння за яго. Гэта малітва, пост, ахвяра, добрыя ўчынкі і г.д.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай ва ўспамін памерлых вернікаў, 02.11.2015*

---

# Бог – Кароль майго жыцця



*Сёння сваю гісторыю распавядае сястра Вольга з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта.*




### Да Хрыста праз міласэрнасць

Нарадзілася сястра Вольга ў Ваўкавыску ў сям'і бібліятэкара і электрамеханіка. Выхоўвалася разам з малодшым братам.

*"У маёй сям'і заўсёды панавалі згода і дабрабыт. Мама выхоўвала ў нас пачуццё міласэрнасці. Вучыла думаць адно пра аднаго, заўважаць не толькі свае патрэбы. Мама сама паходзіць з вялікай сям'і, дзе была адной з 15 дзяцей. Таму прыклад такой адданасці яна прынесла са свайго «гнязда»".*

У Крамяніцы ў касцёле святога Юрыя сястра Вольга прыняла першыя сакраманты: была ахрышчана і прыступіла да Першай святой Камуніі.

*"Да сустрэчы з Хрыстом мяне рыхтаваў ксёндз Станіслаў Петраш. Назаўсёды застаўся ў памяці яго наказ: калі бачыш касцёл ці распяцце, абавязкова рабі знак крыжа. І да сёння гэтага прытрымліваюся".*

### Сіла малітвы

Ва ўзросце 10 гадоў дзяўчынку паклалі ў шпіталь. Увечары, калі гасілі святло, яна, як і заўсёды, станавілася на калені і малілася.

*"Аднойчы гэта заўважыла манаская сястра і спытала ў мяне: ты верыш у Бога? Я трошкі спужалася, бо ў той час не магла свабодна вызнаваць веру. Але адважылася і адказала, што так. Мы разгаварыліся. Яна падарыла мне абразок са стацыямі Крыжовага шляху і паабяцала маліцца за мяне".*

З 14 гадоў дзяўчына стала рэгулярна наведваць касцёл.

*"У школе я чула голас, які мяне клікаў. Была гатова штодня хадзіць у святыню, але пра кляштар і не думала".*

Калі ў адзін цудоўны дзень катэхетка спытала яе, ці бачыць дзяўчына сваё пакліканне, то пачула ўпэўненае "так, да сям'і".

Хутка выпускніца здала экзамены і падала дакументы ў медінстытут. Але Бог распарадзіўся інакш: дзяўчына не паступіла і пачала рыхтавацца на наступны год.

### Каля абраза Святой Сям'і

*"Акурат у гэты час адзін клерык запрасіў моладзь, у ліку якой была і я, на свае аблучыны. Нас, дзяўчат, прынялі сёстры назарэтанкі. У той час яны яшчэ жылі ў семінарыі, дзе зараз знаходзіцца бібліятэка. Былі ветлівыя, запрасілі нас на вячэру. А пасля ўсе сабраліся ў капліцы. Там я ўбачыла абраз Святой Сям'і і падумала: напэўна, гэта маё месца. Нават калі я не буду мець сваю сям'ю, змагу праз сваю ахвяру і малітву дапамагаць іншым сем'ям".*

Манахіні карэнным чынам змянілі ўяўленне дзяўчыны пра манаскае жыццё, і тая вырашыла застацца.

*"Калі я сустрэлася з настаяцельніцай, яна радасна прывітала мяне: «О, сястра!». А я кажу: «Не, я толькі хачу паразмаўляць». Высветлілася, што яна збпытала мяне з паступленнем у ... Але дадала: «Калі я цябе прыняла за сястру, то ты дакладна маеш пакліканне»".*

Дзяўчына прызналася, што Бог не дае ёй супакою і папрасіла настаяцельніцу памаліцца за яе. А калі вярнулася дадому, паведаміла бацькам, што ідзе ў кляштар.

*"Вядома, мама пачала плакаць, перажываць. Але праз нейкі час змірылася і пачала маліцца, каб я вытрымала да канца".*

### Божымі шляхамі

25 лістапада 1995 года ва ўспамін блаславёнай Францішкі Седлiцкай дзяўчыну прынялі ў аспірат. А ў чацвер пасля Папяльцовай серады, 22 лютага 1996 года, – у паступят. Летам распачаўся навіцыят. Праз два гады сястра склала першыя манаскія абяцанні, а 28 жніўня 2004 года – вечныя.

*"Я паехала ў Чырвонаармейск ва Украіну працаваць катэхеткай. Нездарма адзін ксёндз сказаў, што першая пляцоўка, як першае каханне: ніколі не забываецца. І сапраўды, Украіна назаўсёды засталася ў маім сэрцы. І дагэтуль мне вельмі баліць за тое, што адбываецца там у апошнія два гады. Існуе нават спакуса папрасіць у генеральнай сястры вярнуцца туды працаваць...".*

Пасля сястра Вольга паехала ў Навагрудак, а затым у Маладзечна. І панеслася: Калінінград, Гродна, Варшава, Шчучын, Мінск, Касцяневічы, Івянец, Ліда, Жытомір, Будслаў. Даводзілася выконваць розныя абавязкі: працаваць у катэхетычных пунктах і курыяльным магазіне, у закрыстыі і аплаткарні, на кухні і ў сталовай для бяздомных.

*"Моцную духоўную сувязь з Маці Божай я перажыла ў Будславе. Шмат ласкаў яна выпрасіла ў Сына для мяне і маіх блізкіх, для людзей, якія прасілі аб малітве. На маіх вачах адбываліся шматлікія ацаленні і цуды. Працаваць у такім намоленым месцы было для мяне вялікім гонарам".*

Сёння сястра Вольга служыць у закрыстыі ў пабернардынскім касцёле.

**"Бог – гэта нешта найвышэйшае. Ён Той, хто варты глыбокай пашаны. Бог – Кароль майго жыцця. Ён заўсёды побач. Я нястомна дзякую за тое, што Ён вядзе мяне. «Калі я пайду далінай смяротнага ценю, не ўбаюся ліха, бо Ты са мною» (Пс 23)".**

*Ангеліна Пакачайла*




◆ *Стартавала трэцяе выданне ватыканскай дабрачыннай латарэі. Па распараджэнні папы Францішка, прыбытак будзе прызначаны на дапамогу бежанцам і бяздомным. У латарэі можна выйграць падарункі, якія Святы Айцец атрымаў у мінулым годзе. Сярод 12 галоўных лотаў – аўтамабіль Lancia Ypsilon, гадзіннік Rolex, горны веласіпед, а таксама скураны чамадан і дыван, сатканы ўручную. Латарэю арганізоўць губернатар дзяржавы-горада Ватыкан кардынал Джузэпэ Бертэлі разам з папскім дабрадзеем арцыбіскупам Конрадам Краеўскім. Латарэйны білет каштуе 10 еўра. Яго можна набыць у крамах, музеях і аптэцы на тэрыторыі Ватыкана. Розыгрыш латарэі адбудзецца 2 лютага 2016 года.*

◆ *У Назарэце распачаўся юбілейны год, прысвечаны блаславёнаму Шарлю дэ Фуко (1858–1916). Французскі манах і місіянер пустэльнік на працягу многіх гадоў знаходзіўся ў пустыні сярод мусульманскіх туарэгаў. Галоўным пунктам урачыстасцей будзе 24-гадзінная малітва аб супакоі ў гадавіну смерці блаславёнага – 1 снежня бягучага года, а таксама міжрэлігійная сустрэча ў сакавіку 2016 года – інфармуе французскі часопіс "La Croix". Юбілейны год завершаць літургічныя ўрачыстасці ў Назарэце 1 снежня 2016 года ў сотую гадавіну смерці блаславёнага дэ Фуко.*

◆ *Рэлііквіі св. Айца Піо трапяць у яго родную мясцовасць. Пачынаючы з 11 лютага 2016 г. яны будуць выстаўлены ў Петрэльчыне на працягу трох дзён. Мясцовыя капуцыны называюць гэтую падзею "вялікім блаславеннем" і "вяртаннем Святога дадому". Яны спадзяюцца, што ў гэтую невялікую мясцовасць прыбудуць з гэтай нагоды тлумы вернікаў з усяго наваколля. Выстаўленне будзе магчымым дзякуючы спецыяльнаму дазволу папы Францішка, які згадзіўся на тое, каб пасля пілігрымкі ў Ватыкан святы капуцын наведаў таксама сваю родную мясцовасць. 6 лютага ў Ватыкане адбудзецца сустрэча малітоўных груп Айца Піо, а праз чатыры дні – у Папяльцовую сераду – у прысутнасці рэліквій гэтага святога манаха Францішак разашле ў свет місіянераў Божай Міласэрнасці.*

◆ *На працягу трох тыдняў працы XIV агульнага пасяджэння Сінода Біскупаў яго Айцы падчас сесій выступалі 328 разоў. Да таго ж 51 удзельнік прамаўляў падчас рэдакцыі канечнага дакумента. Як бачна з прыведзеных вышэй даных, большасць з 270-ці Айцоў Сінода прамаўлялі больш за адзін раз. Агульныя кангрэгацыі трывалі ў суме 54 гадзіны, а праца ў 13-ці моўных групах, г.зв. "circoli minores", – 36 гадзін. Акрамя гэтага адбылося 19 прэс-канферэнцый, было адпраўлена 30 інфармацыйных лістоў і каля 2 тысяч твітаў.*

◆ *Найбольшы ў гісторыі Касцёла ў Беларусі малітоўнік выйшаў да 90-годдзя Пінскай дыяцэзіі. Выданне налічвае больш за тысячу старонак. У ім сабраны як усе распаўсюджаныя, так і амаль забытыя малітвы, набажэнствы, спевы, характэрныя для каталіцкага Касцёла на беларускіх землях. Нягледзячы на вялікі аб'ём, малітоўнік выглядае кампактна і эфектна. Выдадзены пад назвай "Бог добры".*

*ekai.pl; credo-ua.org; niedziela.pl.*

***Ангеліна Пакачайла***

# Абп Кандрусевіч:

• *працяг са с. 1*

### КСЁНДЗ АРЦЫБІСКУП, ЦІ АПРАЎДАЎ СІНОД ВАШЫЯ ЧАКАННІ І НАДЗЕЮ?

Галоўным чынам трэба сказаць, што Сінод Біскупаў на тэму "Пакліканне і місія сям'і ў Касцёле і свеце", які адбываўся ў Ватыкане з 4 да 25 кастрычніка бягучага года, справіўся з задачамі і чаканнямі, якія былі з ім звязаны.

### ЯК ВЫГЛЯДАЕ СУЧАСНАЯ СЯМ'Я? ЦІ МОЖНА КАЗАЦЬ ПРА "БЕЛАРУСКУЮ" МАДЭЛЬ СЯМ'І?

Сям'я знаходзіцца ў небывалым крызісе. Узрастае колькасць разводаў, што з'яўляецца трагедыяй не толькі для разведзеных, але і для іх дзяцей, якія пры жывых бацьках становяцца быццам сіротамі. Абясцэньваецца само паняцце сям'і як адзінага і непарыўнага саюзу мужчыны і жанчыны з мэтай супольнага жыцця, нараджэння патомства і яго выхавання. У многіх краінах свету былі легалізаваны гомасексуальныя саюзы, часам нават з правам усынаўлення дзяцей. Амаральнае выкарыстанне дасягненняў навукі, асабліва генетыкі, адкрывае шлях да маніпуляцыі каштоўным дарам, якім з'яўляецца дар жыцця. Сям'я замест таго, каб быць хатнім Касцёлам, месцам сустрэч і супольнай малітвы, а таксама фармацыі маладога пакалення, становіцца нібы гатэлем, куды яе члены прыходзяць толькі спаць. Супольны стол, які некалі яднаў усіх членаў сям'і, сення амаль ужо не існуе. А калі і здараецца нагода для супольнага абеду, адразу ж пасля яго ўсе разбягаюцца па сваіх пакоях, дзеці ў інтэрнэт, бацька да тэлевізара, а маці на кухню. Адышла ў гісторыю шматпакаленевая сям'я.

У многіх аспектах нешта падобнае можна сказаць і пра беларускую сям'ю, за выключэннем легальных гомасексуальных саюзаў. Я з трывогай гляджу на нашы сем'і. У часы ганенняў на Касцёл бабулі, дзядулі і бацькі вучылі дзяцей катэхізісу і былі для іх сведкамі хрысціянскага жыцця. Сёння бацькі ўсцешны, што дзеці могуць вывучаць рэлігію і рыхтавацца да першай споведзі і Камуніі на катэхезе пры касцёле. Але самі не моляцца з імі, не ходзяць на нядзельную Імшу, не даюць ім такога неабходнага сведчання хрысціянскага жыцця. Вельмі негатыўна на вобраз беларускай сям'і ўплывае заробкавая міграцыя, калі бацька, а часам нават і маці, выязджаюць у іншую краіну на заробкі; нярэдка бацькі павінны працаваць на некалькіх працах, каб утрымаць сям'ю. Усё гэта пагражае вельмі негатыўнымі наступствамі для фармацыі маладога пакалення, якія ўсё часцей праяўляюцца.


*Сям'я павінна быць моцная Богам*

### ЯКІЯ БЫЛІ ГАЛОЎНЫЯ ТЭМЫ ДЫСКУСІІ?

Праца Сінода грунтавалася на дакуменце "Instrumentum laboris" – "Рабочы дакумент", падрыхтаваным раней спецыяльна створанай групай. Ён складаўся з трох раздзелаў: "Выклікі сям'і", "Пакліканне сям'і" і "Місія сям'і сёння". Айцы Сінода, якімі былі 270 біскупаў і некалькі ксяндзоў, на працягу трох хвілін свабодна выказваліся на адвольную тэму. У некаторыя дні адбываліся гэтак званыя вольныя дыскусіі, у якіх кожны мог узяць слова. Пасля абмеркавання кожнага раздзела працавалі г.зв. "малыя групы", якія былі падзелены паводле моўнага ключа. Іх было 13. Вынікі працы гэтых груп апрацоўвала спецыяльная камісія, якая прадставіла канечны тэкст Сінода, што быў зацверджаны шляхам галасавання. Трэба адзначыць, што канечны дакумент прынцыпова адрозніваецца ад першага.

Да галоўных тэм сінадальнай дыскусіі трэба аднесці наступныя. Неабходнасць грунтоўнай падрыхтоўкі да сужэнства, якая павінна мець не толькі тэарэтычную аснову, але і малітоўны грунт, добрае веданне Святога Пісання і навукі Касцёла. Фармацыя маладога пакалення ў сям'і. Абвяшчэнне праўд веры і навукі Касцёла простай і зразумелай для сучаснага чалавека мовай. Спадарожнічанне сям'і з боку душпастараў і парафіі ў першыя гады пасля шлюбу з мэтай нейтралізаваць і пераадолець цяжкасці, якія ў яе ўзнікаюць. Лепшая фармацыя святароў у справе

## Сінод: аб душпастарстве

***Да пытанняў, якія абудзілі найбольш дыскусій падчас апошняга Сінода належала праблема душпастарства разведзеных асоб, якія жывуць у новых грамадзянскіх саюзах. Гэтыя пытанні трактуюцца ў параграфах 84–86 канечнага дакумента.***

Пытаннем, якое пэўным чынам абцяжарыла працу Сінода, было пытанне аб магчымасці прыняцця святой Камуніі разведзенымі асобамі, якія жывуць у новым саюзе. У канчатковым дакуменце Сінод не ўпамінае аб магчымасці дапушчэння да Камуніі такіх асоб. Выразна падкрэсліваецца неабходнасць лепшага, больш дакладнага вывучэння сітуацыі дадзеных асоб і актыўнейшага іх удзелу ў жыцці Касцёла.

**Тры параграфы прысвечаны менавіта гэтай праблематыцы. Вось яны:**

**84.** *Ахрышчаныя асобы, якія развяліся і зноў заключылі грамадзянскі саюз, павінны больш уключацца ў хрысціянскія супольнасці рознымі магчымымі спосабамі, пазбягаючы ўсякіх нагод для спакусы. Ключом душпастарскага спадарожнічання ім з'яўляецца логіка інтэграцыі, каб яны не толькі ведалі, што належаць да Цела Хрыста, якім з'яўляецца Касцёл, але і маглі радасна і плённа гэта перажываць. Яны ахрышчаны, яны з'яўляюцца братамі і сёстрамі, Святы Дух разлівае ў іх дары і харызмы, для дабра ўсіх. Іх удзел можа быць выражаны ў розных касцёльных паслугах, таму трэба распазнаць, якія з розных форм адчужэння, практыкаваных сёння ў літургіі, душпастарстве, адукацыі і ў інстытуцыйнай сферы можна пераадолець. Яны не толькі не павінны адчуваць сябе экскамунікаванымі, яны могуць жыць і развівацца як жывыя члены Касцёла, адчуваючы, што ён з'яўляецца маці, якая заўсёды іх прымае, клапоціцца пра іх з любоўю і падтрымлівае іх у пілігрымцы жыцця і Евангелля. Гэтая інтэграцыя патрэбна таксама па прычыне клопату і хрысціянскага выхавання іх дзяцей, якія павінны быць прызнаны найважнейшымі. Для хрысціянскай супольнасці клопат пра гэтых людзей не з'яўляецца аслабленнем сваёй веры і сведчання аб непарыўнасці сужэнства: наадварот, у гэтым клопаце Касцёл выражае менавіта сваю любоў.*

**85.** *Святы Ян Павел II прапанаваў комплексны крытэрый, які з'яўляецца асновай для ацэнкі такіх сітуацый: "Няхай ведаюць душпастары, што дзеля любові да праўды яны абавязаны грунтоўна даследаваць сітуацыю. Таму што існуе розніца паміж тымі, хто шчыра старэўся захаваць першае сужэнства і быў абсалютна несправядліва пакінуты, і тымі, хто па сваёй вялікай віне знішчыў важнае кананічнае сужэнства. Урэшце рэшт, існуюць тыя, хто заключыў новы саюз з неабходнасці выхавання дзяцей, часта суб'ектыўна ўпэўненыя, што папярэдняе сужэнства, знішчанае беззваротна,*

# дактрына аб сям’і не змяняецца

СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ "СЛОВА ЖЫЦЦЯ"

душпастарства сем’яў. Праблема душпастарства разведзеных ці тых, хто знаходзіцца ў новым грамадзянскім саюзе, а таксама ў гомасексуальным саюзе.

**ЦІ САПРАЎДЫ СПРАВА ЛЕГАЛІЗАЦЫІ ГОМАСЕКСУАЛЬНЫХ САЮЗАЎ І СВ. КАМУНІІ ДЛЯ РАЗВЕДЗЕНЫХ З’ЯЎЛЯЕЦЦА НАСТОЛЬКІ АКТУАЛЬНАЙ, ШТО НЕКАТОРЫЯ СЦВЯРДЖАЛІ, ШТО КАСЦЁЛ ПАВІНЕН ІХ ДАЗВОЛІЦЬ? ЯК АЙЦЫ СІНОДА КАМЕНТАВАЛІ ГЭТУЮ ТЭМУ?**

Сінод пацвердзіў традыцыйную навуку Касцёла на тэму гомасексуальных саюзаў і разведзеных асоб, якія жывуць у новых грамадзянскіх саюзах. Айцы Сінода разам з папам Францішкам яшчэ раз сцвердзілі, што дактрына аб сям’і не змяняецца. І гэта вельмі важна, таму што Сінод вершаць не СМІ, а Святы Дух, які кіруе Папам і біскупамі. Іншая справа, што ў душпастарстве трэба прысвяціць большую ўвагу тым, хто аказаўся ў складанай і нязгоднай з вучэннем Касцёла сітуацыі. Як асобы, якія жывуць у гомасексуальных саюзах, якія ніякім чынам не могуць быць прызнаны сужэнствамі, так і разведзеныя, якія жывуць у новых грамадзянскіх саюзах, што з’яўляецца прычынай немагчымасці прыняцця імі св. Камуніі, не экскамунікаваны і маюць права на душпастарскую апеку, мэта якой – давесці іх да упарадкавання сітуацыі згодна з Божым правам. Сярод мноства поглядаў, да таго ж розных, адносна гэтых праблем, большасць прытрымліваецца традыцыйнай навукі, але ў той жа час выступае за неабходнасць духоўнага спадарожнічання такім асобам і лепшага разумення кожнай канкрэтнай сітуацыі з мэтай павышэння іх інтэграцыі ў жыццё Касцёла.

**ЯК ПРЫМІРЫЦЬ ВУЧЭННЕ І МІЛАСЭРНАСЦЬ У СІТУАЦЫІ, НАПРЫКЛАД, РАЗВЕДЗЕНЫХ АСОБ, ЯКІЯ ХОЧУЦЬ ПРЫМАЦЬ СВ. КАМУНІЮ?**

Дактрына і міласэрнасць не супярэчаць адна адной, а дапаўняюць адна адну. Касцёл павінен дзейнічаць згодна з праўдай Евангелля, але ў міласэрнасці, якая з’яўляецца найважнейшай рысай Бога. Мы павінны перааддольваць грэх, а не змагацца з чалавекам, бо нават самы грэшны можа навярнуцца, прыкладаў чаго дастаткова.

**ЦІ АДВАРОЧВАЕЦЦА КАСЦЁЛ АД ГОМАСЕКСУАЛІСТАЎ І РАЗВЕДЗЕНЫХ?**

Касцёл не адварочваецца ад іх, не забараняе ім прымаць удзел у набажэнствах. Сінод яшчэ больш заахвоціў душпастараў ахінуць іх сталай душпастарскай апекай і спадарожнічаць ім у іх складанай сітуацыі, індывідуальна падыходзячы да кожнага выпадка.

**ХТО З УДЗЕЛЬНІКАЎ СІНОДА ЗАКЛІКАЎ ДА ЗМЕНЫ ДАКТРЫНЫ КАСЦЁЛА АДНОСНА СУЖЭНСТВАЎ? ЯКАЯ БЫЛА ВАША ПАЗІЦЫЯ? ЯКІЯ ЗМЕНЫ ВЫ МАГЛІ Б ПРЫНЯЦЬ?**

Як я ўжо казаў вышэй, дактрынальныя справы, што вынікаюць з Аб’яўлення, нязменныя. Але могуць падлягаць зменам некаторыя практыкі. Сінод выразна выказаўся на карысць большай інтэграцыі жыцця асоб, якія знаходзяцца ў сітуацыі, што не згаджаецца з вучэннем Касцёла. Слова “інтэграцыя” можа разумецца вельмі шырока, напрыклад, публічнае чытанне Святога Пісання падчас рэлігійных сустрэч ці набажэнстваў або актыўны ўдзел у жыцці парафіяльнай супольнасці. Тут таксама трэба браць пад увагу традыцыі розных народаў і іх культуру. Не можа быць агульнага рэцэпта для ўсіх, таму папа Францішак далей развівае ўзнятую II Ватыканскім Саборам ідэю дэцэнтралізацыі ўлады ў Касцёле.

**ЯКІЯ ЗАКРАНУТЫЯ НА СІНОДЗЕ ПЫТАННІ ПАВІНЕН РАЗГЛЯДЗЕЦЬ КАСЦЁЛ У БЕЛАРУСІ? У ЯКІМ НАПРАМКУ ПАВІННА РАЗВІВАЦЦА СЯМ’Я?**

Перш за ўсё, неабходна сур’ёзна адносіцца да справы падрыхтоўкі маладых людзей да сакраманту сужэнства, бо многія не разумеюць ні мэты гэтага сакраманту, ні правоў і абавязкаў, якія з яго вынікаюць. Існуе выразная неабходнасць спадарожнічання маладым сем’ям, у сувязі з чым усё большае значэнне атрымліваюць сямейныя кансультацыі пры парафіях ці дыяцэзіях. Сужэнцы павінны памятаць пра асноўны абавязак нараджэння патомства і выхавання яго паводле правіл Евангелля так, каб беларускія сем’і сталі хатнімі Касцёламі. Архіважным заданнем з’яўляецца абарона Божага дару жыцця ад зачацця аж да смерці. Сям’я павінна нанова стаць галоўнай ячэйкай беларускага грамадства, яго радасцю і надзеяй.

**ШТО СЁННЯ КАСЦЁЛ ПАВІНЕН ЗРАБІЦЬ ДЛЯ СЯМ’І?**

Сінод паказаў, што Касцёл павінен актывізаваць душпастарства сем’яў. Гэта задача не толькі душпастараў, але і ўсёй супольнасці вернікаў. Касцёл павінен таксама больш супрацоўнічаць з дзяржавай у справе абароны правоў сям’і і ўдасканалення прасямейнай палітыкі.

**ЦІ БУДЗЕ ВЫСЛУХАНЫ ГОЛАС СІНОДА? ЯКАЯ ПАЗІЦЫЯ САМОГА ПАПЫ ФРАНЦІШКА?**

Сінод з’яўляецца дарадчым голасам Папы. Фінальны дакумент Сінода быў перададзены Святому Айцу Францішку, і цяпер, гаворачы спартыўнай мовай, мяч знаходзіцца на яго баку. Напэўна, Папа напіша адпаведны дакумент, Апостальскую адгартацыю, якая стане ўказальнікам таго, як паводзіць сябе ў тым ці іншым выпадку. Сінод адкрыў перад Папам дзверы для вырашэння складаных праблем, і я веру, што пад кіраўніцтвам Святога Духа ён зробіць гэта. На Сінодзе не было пераможцаў і пераможаных. Сінод даследаваў становішча сям’і ва ўсім свеце і даў свае рэкамендацыі. Разнастайнасць думак, пачутых на Сінодзе, пацвярджае яго сінадальнасць, г.зн. супольную дарогу з мэтай вырашэння праблем сям’і.

**ІСНУЕ МНОСТВА ЦУДОЎНЫХ СЕМ’ЯЎ. МОЖА, ТРЭБА СЁННЯ ПРЫСВЯЦІЦЬ ІМ БОЛЬШ УВАГІ І РАЗАМ ДАПАМАГАЦЬ ТЫМ, ХТО ПЕРАЖЫВАЕ ЦЯЖКАСЦІ?**

Гэта праўда і вялікі, нявыкарыстаны пакуль што патэнцыял Касцёла. У працах Сінода прымалі ўдзел гэтак званыя аўдытары. Гэта былі сем’і з розных куткоў свету. Іх сведчанні былі вельмі павучальнымі і патрэбнымі. Яны могуць паказаць, як выратаваць сям’ю, якая аказалася ў крызісе.

**КСЁНДЗ АРЦЫБІСКУП, ЯКІ РЭЦЭПТ СТВАРЭННЯ ДОБРАЙ СЯМ’І МОЖАЦЕ ДАЦЬ ВЫ?**

Такі ж, як і для кожнага хрысціянскага жыцця. А менавіта, жыць згодна з Божым законам, шукаць дапамогі ў Бога, маліцца, шанаваць адзін аднаго і дапамагаць адзін аднаму, а ў цяжкія хвіліны знайсці ў сабе сілы, каб сказаць “прабач”.

***Дзякуй за размову.***

# разведзеных асоб, што жывуць у новых саюзах

*ніколі не было важным” (Familiaris consortio, 84). Таму задача святароў – спадарожнічаць зацікаўленым асобам на шляху распазнання, згодна з вучэннем Касцёла і ўказаннямі біскупаў. У гэтым працэсе неабходнай дапамогай будзе рахунак сумлення ў хвіліны задумы і пакаяння. Разведзеныя асобы, якія заключылі новы саюз, павінны задацца пытаннем, як яны сябе паводзілі ў адносінах да сваіх дзяцей, калі сужэнства было ў крызісе; ці былі спробы паяднання; у якой сітуацыі знаходзіцца пакінуты партнёр; якія наступствы маюць новыя адносіны для астатніх членаў сям’і і супольнасці вернікаў; які прыклад гэтыя адносіны падаюць маладым людзям, што рыхтуюцца да сужэнства. Шчыры роздум можа ўзмацніць веру ў Божую міласэрнасць, бездакорную для кожнага. Больш таго, нельга запярэчыць, што ў некаторых выпадках “свядомасць і адказнасць за дзеянне можа быць зменшана, а нават нівеліравана” (ККК, 1735) з улікам розных абставін. У выніку асуджэнне аб’ектыўнай сітуацыі не павінна прывесці да асуджэння ў справе “суб’ектыўнай свядомасці” (Папская Рада па справах юрыдычных тэкстаў, Дэкларацыя 24 чэрвеня 2000 г., 2а). У некаторых выпадках людзі сустракаюць сур’ёзныя цяжкасці, што перашкаджаюць ім дзейнічаць па-іншаму. Таму, трымаючыся агульнай нормы, трэба прызнаць, што адказнасць адносна некаторых дзеянняў або рашэнняў можа адрознівацца ў залежнасці ад выпадку. Пастарскае распазнанне, улічваючы правільна сфарміраванае сумленне асоб, павінна адчуваць адказнасць за гэтыя сітуацыі. Таксама і наступствы здзейсненых учынкаў не павінны быць аднолькавыя ў кожнай сітуацыі.*

**86.** *Працэс спадарожнічання і распазнання кіруе гэтых вернікаў да ўсведамлення сваёй сітуацыі перад Богам. Індывідуальная размова са святаром спрыяе ўстанаўленню правільнай ацэнкі таго, што з’яўляецца перашкодай для поўнага ўдзелу ў жыцці Касцёла, а таксама крокаў, якія могуць яму спрыяць і развіваць яго. Беручы пад увагу факт, што ў самім праве няма розгнаўзроўневасці (параўн.: Familiaris consortio, 34), гэтае распазнанне ніколі не можа адбыцца без патрабаванняў евангелічнай праўды і прапанаванай Касцёлам любові. Каб так адбывалася, трэба забяспечыць неабходныя ўмовы пакоры, тактоўнасці, любові да Касцёла і яго вучэння ў шчырым пошуку Божай волі і жаданні атрымаць на яе больш дасканалы адказ.*

***Паводле КАІ***

З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ

ekai.pl

### Папа – адна з найбольш уплывовых асоб

***У штогадовым спіску, які складае амерыканскі журнал “Forbes”, ён аказаўся на чацвёртым месцы. Такім чынам Папа захаваў пазіцыю, якую займаў у гэтым рэйтынгу ў 2013 і 2014 гадах.***

*Паводле ацэнкі аўтараў рэйтынгу, Францішак – “духоўны праваднік адной шостай часткі насельніцтва свету – 1,2 мільярда душ” – абраў у якасці сваёй місіі змяненне “кансерватыўнага выгляду каталіцкага Касцёла”. “Першы езуіцкі і лацінскі біскуп Рыма прапагандуе спачуванне ўбогім і большую ролю жанчын, і адначасова памяншае засяроджанасць Касцёла на тэмах, звязаных з абортам, гомасексуальнымі саюзамі і ўжываннем кантрацэптыўных сродкаў”, – лічыць “Forbes”.*

wiara.pl

### У Польшчы апублікавана даследванне пра ролю жанчын-каталічак

***Немагчыма пераацаніць тое, што робяць жанчыны для Касцёла ў Польшчы, сведчаць даныя Інстытута статыстыкі каталіцкага Касцёла ў гэтай краіне.***

*Рэлігійнасць жанчын у Польшчы заўважна адрозніваецца ад мужчынскай як у сферы практыкі, так і ў ступені прыняцця праўд веры, пішуць аўтары даследвання. Паводле яго, жанчыны амаль у два разы часцей за мужчын кажуць пра сябе як пра “глыбока веруючых” і радзей кажуць пра свой атэізм.*

*Больш за тое, прыкладна 90% жанчын вераць у боскасць Езуса ў параўнанні з 81% мужчын. 79% жанчын правільна памятаюць колькасць сакрамантаў, 53% жанчын чытаюць рэлігійную прэсу і кнігі ў параўнанні з 37% мужчын. Таксама жанчыны больш актыўна ўдзельнічаюць у парафіяльнай дзейнасці і касцёльных супольнасцях. Таксама і колькасць польскіх манахінь традыцыйна ў некалькі разоў большая за колькасць манахаў.*

Radio Vaticana

### Вялізны поспех акцыі “Падай мыла!”

***Ініцыятыва заключалася ў зборы кавалкаў мыла, якое трапіць да падапечных польскіх масіянераў, што працуюць у Афрыцы.***

*Арганізатары меркавалі, што ім удасца сабраць каля 10-ці тысяч кавалкаў. Аднак эфект збору значна перавысіў першапачатковыя меркаванні.*

*Жыхары трапічных краін часта хварэюць на г.зв. “хваробы брудных рук”: брушны тыф, халеру, дызентэрыю ці вострую дыярэю. Асноўнае гігіенічнае дзеянне, якім з’яўляецца мыццё рук, дазволіла б іх пазбегнуць. На жаль, мыла ў многіх афрыканскіх краінах на вагу золата.*

***Кінга Красіцкая***

## Айцы піяры ўшанавалі памяць спачылых братоў супольнасці

*Каталіцкі Касцёл заклікае сваіх вернікаў маліцца за ўсіх памерлых, асаблівым чынам у лістападзе, наведваючы магілы сваіх родных і блізкіх, а таксама ўдзельнічаючы ва ўрачыстасцях, прысвечаных памяці памерлых. У гэтыя дні айцы піяры са Шчучына ўшанавалі памяць памерлых братоў, якія належаць да іх супольнасці, і наведалі месца іх пахавання.*



У Лідзе пахаваны пробашч і апошні рэктар былога піярскага калегіума (зараз праваслаўная царква) а. Клімент Марыян Чабаноўскі SP, а таксама былы лідскі дэкан а. Станіслаў Роек SP, а ў Крамяніцы – а. Станіслаў Петраш SP.

Часы, калі піяры працавалі ў Беларусі, былі нялёгкімі, многія з братоў былі запалоханы і выгнаны з парафій, але, нягледзячы ні на што, святары заставаліся вернымі свайму пакліканню.

## "Канікулы з Богам" прайшлі ў смаргонскім араторыі

*На працягу пяці дзён с. Валянціна FMA, кс. Павел Шчарбіцкі SDB, семінарысты, аніматары і памочнікі дапамагалі дзецям бліжэй пазнаёміцца са Старым Запаветам.*



Дзеці штодзённа ўдзельнічалі ў працы па групах, у ходзе якой глыбей разважалі пра біблейскія сюжэты, суадносячы іх з рэальным жыццём. Таксама яны атрымлівалі хатняе заданне, якое павінны былі рабіць дома з бацькамі.

Кожны дзень пачынаўся святой Імшой, на якой дзеці вучыліся адчуваць рэальную прысутнасць Бога. Праграма канікул уключала такса-ма гульні, вольны час, гурткі. Своеасаблівым падарункам стала арганізаванае ў адзін з дзён канікул падарожжа ў Гервяты і Жупраны.

## У Лідзе прайшоў дзень засяроджання для міністрантаў

*Ён прайшоў у час школьных канікул і стаў для ўдзельнікаў выдатнай магчымасцю наблізіцца да Бога і карысна правесці час для духоўнага развіцця.*



Дэвізам дня засяроджання, арганізаванага кс. Юрыем Гурскім, былі словы: "Мужнасць у нашых сэрцах". На катэхезе, якую праводзіў кс. Руслан Мазан, абмяркоўвалася шмат цікавых актуальных пытанняў, у тым ліку: "Якім бачыць мужчыну хрысціянства?", "Якімі якасцямі павінен валодаць сапраўдны мужчына?", "Хто такі смелы чалавек?".

Акрамя малітвы, хлопцаў чакала мноства цікавых конкурсаў, спартыўных спаборніцтваў, гульні ў тэніс і футбол, маляванне. Віктарына па ведах літургічнай службы, якую праводзілі старэйшыя міністранты парафіі, зацікавіла ўдзельнікаў займальнымі і складанымі пытаннямі. Яны паказалі выдатныя веды аб святой Імшы і гісторыі Касцёла, сталі дружнай і адказнай камандай.

## Прызначаны новы дырэктар Нацыянальнага "Карытас"

*На 60 пленарным пасяджэнні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі было прынята рашэнне назначыць на пасаду дырэктара Рэлігійнай Місіі "Дабрачыннае каталіцкае таварыства Карытас" кс. Віталія Дабраловіча.*




Да гэтай пары дырэктарам Нацыянальнага "Карытас" быў кс. Віктар Гайдукевіч SDB, які з 2009 года шчыра і аддана выконваў сваю паслугу, рэалізуючы галоўную місію таварыства, а таксама заданне кожнага хрысціяніна – ахвярна служыць бліжняму, несучы міласэрную любоў тым, хто найбольш яе патрабуе.

Новы дырэктар "Карытас" Беларусі кс. Віталій Дабраловіч з 2006 года служыў у "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі. За гады працы кс. Віталія ў "Карытас" Гродна быў рэалізаваны шэраг дабрачынных праектаў. Пад кіраўніцтвам кс. Віталія "Карытас" аказваў дапамогу перш за ўсё шматдзетным сем'ям, самотным людзям і бяздомным.

## Лідская моладзь арганізавала прыбіранне мясцовых могілак

*Моладзь з лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Ліда-Фара) арганізавала міні-суботнік на тэрыторыі, прылягаючай да капліцы св. Барбары ў Лідзе. Пасля заканчэння працы моладзь памалілася за душы людзей, пахаваных на лідскіх могілках.*



Маладыя вернікі разам с кс. Уладзіславам Сурвілам і клерыкамі вырашылі навесці парадак на мясцовых могілках напярэдадні дня ўспаміну ўсіх памерлых. Дадзенае мерапрыемства ў лідскай парафіі ўжо стала традыцыяй.

"Мы палічылі гэта сваім абавязкам – прыйсці і навесці парадак у капліцы нашай парафіі. Могілкі на прылягаючай тэрыторыі старыя, пра некаторыя магілы ўжо ніхто не клапоціцца...", – распавяла адна з парафіянак Яна Чайко.

## Сустрэча Таварыства Святой Сям'і з Назарэта прайшла ў Навагрудку

*Тэмай чарговай сустрэчы стала вернасць Божаму слову ў жыцці Найсвяцейшай Панны Марыі. Духоўным апекуном дзён засяроджання быў кс. Віталій Сідорка, прэфект Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.*



Падчас святой Імшы кс. Віталій нагадаў, што вельмі важна чытаць Божае слова рэгулярна, бо яно жывое, здольнае дзейнічаць у сэрцы і змяняць яго тут і цяпер, а добры плён дзеяння Божага слова можа быць бачны не адразу, але праз некаторы час, нават нечакана для самога чалавека.

Напрыканцы сустрэчы ўдзельнікі падзяліліся сваім перажываннем рэкалекцый і дзеяннем Божага слова ў іх жыцці.

## Святары абмеркавалі дзейнасць Гродзенскай ВДС

*10 лістапада ў будынку семінарыі адбылася сустрэча біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча са святарамі – выкладчыкамі семінарыі, прэлатамі і дэканамі, якія прадстаўляюць погляды святароў адпаведных дэканатаў. У сустрэчы таксама прыняў удзел дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.*



На сустрэчы ўвазе прысутных быў прадстаўлены дакумент Кангрэгацыі па справах духавенства, накіраваны на далейшае ўладкаванне і развіццё справы пакліканняў і падрыхтоўкі да святарскага служэння ў Касцёле ў Беларусі.

Удзельнікі сустрэчы мелі магчымасць абмеркаваць перспектыўныя прапановы, якія ватыканская кангрэгацыя раіць прымяніць на шляху далейшага развіцця семінарыйнай адукацыі ў нашай краіне. Удзельнікі дыскусіі з удзячнасцю прынялі да ўвагі і разгледзелі глыбокія высновы, зробленыя арцыбіскупам Хорхе Карласам Патронам Вонгам па выніках яго візіту ў семінарыю ў маі бягучага года, і абмеркавалі канкрэтныя меры, накіраваныя на ўзаемадзеянне біскупаў, святароў і семінарыйнай супольнасці дзеля далейшага існавання і плённай дзейнасці Вышэйшай духоўнай семінарыі, якая з'яўляецца духоўным сэрцам Гродзенскай дыяцэзіі.

*Працяг тэмы ў наступным нумары*

## АНОНСЫ

# Прэзбітэрскае і дыяканскае пасвячэнні адбудуцца ў Гродне

**21 лістапада ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч удзеліць прэзбітэрскае і дыяканскае пасвячэнні выпускнікам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. Пачатак святой Імшы а 12-й гадзіне.**

Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымае дыякан Алег Яновіч, дыяканскае – семінарысты Дзяніс Бразінскі, Анджэй Ганчар і Андрэй Скамарошка. Перад пасвячэннем кандыдаты прымуць удзел у рэкалекцыях, якія непасрэдна падрыхтуюць іх да гэтай важнай падзеі. Кандыдаты да пасвячэння даручаюць малітве вернікаў.

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### Ці моліцеся Вы за душы памерлых?




*У лістападзе чарговае апытанне датычылася нашай малітвы за памерлых. Пераважная большасць рэспандэнтаў сцвердзіла, што памятае аб памерлых у сваіх малітвах на працягу ўсяго года. Ёсць і тыя, хто моліцца толькі ў Дзень задушны ці падчас актавы малітвы за памерлых. Малітоўная памяць у інтэнцыі нашых памерлых з'яўляецца найбольшым дарам, які мы можам ахвяраваць за іх душы.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*На пачатку лістапада ажываюць нашы могілкі. Тлумы людзей накіроўваюцца туды, дзе пахаваны іх памерлыя блізкія. Прыгожыя помнікі, вялікая колькасць лампад і кветак, а таксама наша малітва за іх душы. Такім чынам мы ўшаноўваем тых, хто пайшоў за ўзнагародай да Пана. Мы таксама ўсведамляем, што прыйдзе і наш час, калі мы станем перад Богам. Варта памятаць пра гэта не толькі ў гэтыя лістападаўскія дні, а, як большая частка ўдзельнікаў апытання, на працягу ўсяго года. Трэба памятаць, што толькі сістэматычнай малітвай мы можам вымаліць для іх неба, а калісьці і яны ў хвіліну нашай смерці дапамогуць нам трапіць у неба. Я заахвочваю асабліва маладое пакаленне памятаць пра памерлых з сям'і, памятаць пра тое, што чалавечая душа не памірае.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**16 лістапада 1953 г.** – кс. Альфонс Чыжэўскі SJ, *душп. Бердаўка;*
**16 лістапада 1999 г.** – кс. Мацей Мацееўскі CR, *проб. Крамяніца;*
**17 лістапада 1990 г.** – кс. Эдуард Жураўскі, *проб. Кемелішкі;*
**18 лістапада 1975 г.** – кс. Мечыслаў Радзішэўскі, *проб. Новы Двор;*
**19 лістапада 1967 г.** – кс. Уладзіслаў Матуліс, *проб. Солы;*
**24 лістапада 1966 г.** – кс. д-р Севярын Яноўскі, Мендзыжэц-Падляскі, *проб. Вавёрка;*
**25 лістапада 1949 г.** – кс. кан. Міхал Маеўскі, *душп. Мінойты;*
**29 лістапада 1995 г.** – кс. Тадэвуш Лась SCJ, *душп. Ляцк.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# Моладзь Беларусі памалілася Ружанцам праз




*31 кастрычніка моладзь з Гродна, Мінска, Полацка і Магілёва правяла ружанцовую малітву праз Skype. Гэта ўжо пяты па ліку Ружанец, які праводзіцца моладдзю з выкарыстаннем сучасных сродкаў сувязі.*

*Першая такая малітва праходзіла ў гродзенскім катэдральным касцёле з выкарыстаннем мабільнай сувязі. Калі да гэтага ўдзельнікамі была моладзь гродзенскай дыяцэзіі, то ў гэты раз праз Skype маліліся маладыя каталікі з усёй Беларусі.*




Падчас ружанцовай малітвы праз Skype

**Ружанец адбыўся 31 кастрычніка. Так каталіцкая моладзь у супрацьлегласць Хэлоўіну, які ўваходзіць у моду ў Беларусі, вырашыла паказаць перавагу веры ў жывога Бога.**

Перад малітвай адбылася святая Імша з удзелам моладзі розных парафій Гродна і моладзі з душпастарства "OPEN".

Падчас Імшы, якую ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, моладзь прынесла да алтара дары. Быў прынесены мабільны тэлефон як напамін пра тое, што праз віртуальныя зносіны губляюцца жывыя стасункі адзін з адным і з Богам; каралі як сімвал частага імкнення да прыгажосці знешняй, забываючы пра добрыя ўчынкі і ўнутраную прыгажосць; шалік – сімвал малітвы за тое, каб холад быў толькі на вуліцы, а не ў сэрцах; вада – сімвал жывой вады, якую дае Езус, і таго, што менавіта яна, а не матэрыяльныя рэчы, можа наталіць смагу чалавека ў свеце і зрабіць яго шчаслівым. Былі прынесены хлеб і віно – сімвал ахвярнасці Хрыста, у той час, калі людзі, думаючы толькі пра сябе, не заўважаюць патрэбы блізкіх і ігнаруюць запаведзь любіць бліжняга як самога сябе.


Ініцыятарам акцыі з'яўляецца Душпастарства студэнтаў і працуючай моладзі "OPEN" разам з кс. А. Грэмзам

У Ружанцы ўдзельнічала моладзь з Гродна (пад кіраўніцтвам кс. Антонія Грэмзы), Мінска (пад кіраўніцтвам кс. Рамана Сушы), Полацка (пад кіраўніцтвам кс. Аляксея Асона) і Магілёва (пад кіраўніцтвам кс. Віталія Драздоўскага).

Удзельнікаў Ружанца прывітаў біскуп Аляксандр Кашкевіч. Таксама на малітве прысутнічалі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч і дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB.

Нягледзячы на невялікія збоі ў сувязі, малітва праз Skype адбылася. Прадстаўнікі кожнага горада маліліся і разважалі над сваёй таямніцай Ружанца. Разважанні чаргаваліся са спевам. У гэты вечар адчуваліся Хрыстовы запал і атмасфера адзінства.

**Пасля заканчэння малітвы сваімі думкамі і ўражаннямі падзяліліся біскупы Алег Буткевіч і Аляксандр Яшэўскі, а на заканчэнне біскуп Аляксандр Кашкевіч благаславіў моладзь, якая, аднак, не спяшалася вяртацца дадому, а яшчэ паўгадзіны праслаўляла Бога спевам.**

***Паводле catholic.by***







## *Всегда ли в случаях одержимости демонами виноват сам человек?*

*В случаях одержимости невозможно определить степень личной ответственности человека. Её может вообще не быть. В силу своих неисповедимых замыслов Бог может допустить, чтобы даже некоторые святые пережили опыт одержимости дьяволом.*

*Согласно учению святого Фомы Аквинского, прежде чем попытаться овладеть человеком, дьявол изучает его слабые места. Поэтому, например, психические расстройства могут сопровождаться феноменами дьявольского происхождения.*

*Нужно также сделать важное уточнение: даже в случае самой тяжелой формы одержимости она касается не души, а только тела. Дьявол не может повлиять на свободу человека, терроризируя его телесными эффектами. Утрата нравственной свободы человека происходит только при добровольном отказе от этой свободы.*

*Если же в ответ на дьявольские козни человек уповает на благодать Бога, даровавшего свободу и силу для участия в победе Христа, то он может с верой повторять вместе со святым апостолом Павлом: «Ибо я уверен, что ни смерть, ни жизнь, ни Ангелы, ни Начала, ни Силы, ни настоящее, ни будущее, ни высота, ни глубина, ни другая какая тварь не может отлучить нас от любви Божией во Христе Иисусе, Господе нашем» (Рим 8, 38–39).*

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ



# На Міждыяцэзіяльных курсах сямейнага жыцця ў Гродне распачаўся новы навучальны год

З гэтай нагоды адбылася святая Імша, якую ўзначаліў дыяцэзіяльны душпастар сем'яў Гродзенскай дыяцэзіі а. Дзмітрый Лабкоў. У гаміліі святар звярнуў увагу на Святую Сям'ю як прыклад для сем'яў, у якім можна знайсці ўсё, што можа спрыяць іх развіццю. Таксама ў гэты дзень чатыры асобы атрымалі дыпломы аб заканчэнні Школы сямейнага жыцця як пацвярджэнне таго, што цяпер яны могуць праводзіць курсы для будучых сужэнцаў і сямейныя кансультацыі.












***Прывітанне, Маленькі Сябар! Спадзяёмся, Табе спадабалася шукаць сэнс у простай, на першы погляд, прыпавесці. Упэўнены, да нашчупвання сутнасці далучаліся Твае бацькі і сябры. Бо не так і проста распазнаць, што тоіцца за займальным сюжэтам і ўчынкамі герояў. Але, прыклаўшы некаторыя намаганні і адказаўшы на пытанні пасля прачытання прыпавесці, Ты здабываеш зерне мудрасці. Яно будзе наспяваць у Тваёй душы і праз некаторы час дасць добры плён. Можаш не сумнявацца, у патрэбны час яно закаласіцца прыгожай рунню.***

***Сёння прапануем Табе паразважаць над прыпавесцю пра тое, як у добрай бабулькі не пераводзіўся хлеб.***

# Бясконцы хлеб

*Жыла-была бедная старая. Такая яна была бедная, што часам ёй нават не было з чаго хлеба спячы.*
*І была ў яе суседка, якая гэтую бабульку няспынна беднасцю дакарала.*
*Ды аднойчы заўважыла суседка: як толькі яна збіраецца хлеб пячы, у бабулькі таксама з трубы дым ідзе, быццам хлеб пячэцца.*
*– Няўжо гэтая жабрачка разбагацела? – дзівілася суседка.*
*– Трэба было б зазірнуць да яе, праверыць.*
*Заходзіць яна да бабулькі, а тая сапраўды каравай з печы вымае.*
*Пасадзіла суседку за стол, хлебам свежым частуе.*
*– Адкуль жа ў цябе хлеб? – пытаецца суседка.*
*– Нядаўна была бядней беднага, а цяпер кожны дзень хлеб пячэш?*
*І расказала ёй старая, што стамілася яна ад папрокаў у беднасці. І каб сорамна не было, стала галавешку, што дымілася, у печ падкладваць, калі суседка прымалася хлеб пячы. Тыдзень так праходзіць, другі, вось бабулька і прыдумала: “А дай-ка я буду Бога аб літасці прасіць кожны раз, як галавешку ў печку кладу”.*
*Так і пачала рабіць. Кладзе галавешку ў печ і моліцца. Раптам нехта стукае ў акенца. Глядзіць бабулька – стаіць стары жабрак у лахманах, хлеба просіць. А хлебца ў доме ні кавалка. Аддала яна незнаёмаму апошнюю сваю бульбіну.*
*Той яе з’еў і зноў хлеба просіць.*
*– Адкуль жа я табе, дзядуля, хлеба вазьму? – пытаецца бабуля.*
*– А ты з печы дастань, – адказвае дзядок.*
*Зазірнула бабулька ў печ, а там і сапраўды гатовы каравай ляжыць.*
*Войкнула яна, дастала яго і стала дзядка карміць. Ён з’еў увесь каравай і яшчэ просіць.*
*– Няма ў мяне больш хлеба, – кажа бабуля.*
*– А ты зноў з печы дастань, – кажа дзядок.*
*Глядзіць бабуля – а там зноў каравай ляжыць. Дастае яго з печы, а сама ўслых дзівіцца:*
*– Да якога ж часу Бог хлеб мне будзе дараваць?*
*– А да таго часу, пакуль з чыстым сэрцам будзеш дзяліцца з усімі галоднымі, – адказаў стары.*
*Вось з таго часу і не пераводзіцца ніколі ў хаце ў добрай бабулькі хлеб.*

*Якім чынам бабуля хацела вырашыць сваю праблему?*
*Хто пастукаўся да яе ў дзверы?*
*Чым старая частавала госця?*
*Хто падкладваў караваі ў печ?*
*Наколькі шчодры Бог?*

***Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем апекі Найсвяцейшай Маці і св. Заступніка, шчодрых Божых дароў і здароўя, радасці і сілы для штодзённай працы на карысць Богу і людзям. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Смаргоні*

Шаноўнай Яніне Утыры з нагоды 75-годдзя ад усяго сэрца жадаем штодзённай радасці, шчасця, душэўнага супакою, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, а таксама добрых людзей побач. Няхай моцная вера заўсёды будзе Тваёй надзейнай апорай у жыцці, любоў у сэрцы няхай суцяшае ў цяжкія хвіліны, а надзея на лепшае няхай не пахіснецца нават ад самых сцюдзёных вятроў. Няхай добры Бог блаславіць кожны Твой дзень, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом сваёй мацярынскай любові і апекі.

*Сям’я Утаўка: Юзаф і Зоф’я, дзеці і ўнукі*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Чургану з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, рэалізацыі планаў і намераў, сіл і цярплівасці ў душпастарскай працы, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Ваш св. Заступнік штодзённа Вамі апекуецца і вядзе па дарозе да Пана.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Юрацішкаў*

Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку OMI з нагоды Дня нараджэння шчыра жадаем моцы Святога Духа, радасці, якая выплывае з паклікання, здароўя і шмат шчаслівых і спакойных дзён. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе Вас да свайго сэрца і дапамагае пераадольваць цяжкія хвіліны.

*Яна, Вераніка і Валера з пар. Селіванаўцы*

Паважанаму Айцу Вітольду Жэльветра з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, сілы, надзеі, стойкасці, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай добры Бог шчодра адорыць Вас сваімі ласкамі і блаславеннем. Шчасці Божа!

*Вернікі з пар. св. Яна Паўла II у Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму з нагоды 14-годдзя душпастарскай працы жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці ў святарскай паслузе і толькі добразычлівых людзей побач. Няхай добры Бог Вас блаславіць, а Маці Божая Яснагорская апекуецца Вамі і дадае запалу да працы. Доўгіх і шчаслівых душпастарскіх гадоў! Аддзяч Вам Божа!

*Удзячныя парафіяне з Капцёўкі*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Раманоўскаму з нагоды першай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай усемагутны Бог узмацняе і адорвае сваім блаславеннем і любоўю на кожны дзень. Няхай Божае слова, якое Вы засейваеце ў людскіх сэрцах, прыносіць шчодры плён. Няхай кожная пражытая хвіліна дорыць радасць, а побач будуць толькі зычлівыя людзі, гатовыя прыйсці на дапамогу і падтрымаць у цяжкія хвіліны.

*З дарам малітвы і хрысціянскім прывітаннем вернікі з пар. св. Юзафа ў Гродне*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу з нагоды Дня нараджэння прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Жадаем шмат радасці ў душпастарскай паслузе, а таксама сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай усе людзі, якіх Вы сустракаеце на сваім святарскім шляху, адорваюць Вас дабрынёй і зычлівасцю, а ўсемагутны Бог няхай спасылае на Вас свае шчодрыя дары. Няхай Найсвяцейшая Маці ахінае Вас сваёй любоўю і апекай, асабліва ў цяжкія моманты, і выпрошвае ў Сына неабходныя ласкі для Вас. Змаганне са штодзённасцю няхай Вас акрыляе і дазваляе спасцігаць прыгажосць і глыбіню жыцця. За Вашу сціпласць і пакорнасць, за ўсё дабро ад шчырага сэрца дзякуем Вам. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Росі*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці і шчасця, апекі Маці Божай, зычлівых і добрых людзей навокал. Святло Святога Духа няхай асвячае Ваш святарскі шлях. Жадаем таксама Божага блаславення на кожны дзень і доўгіх гадоў жыцця. Дзякуем за Божае слова і прыгожыя павучальныя казанні. Шчасці Божа!

*Клімент з сям’ёй з в. Таневічы*

Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем здароўя і стойкасці ў імкненні да мэты. Няхай Пан блаславіць кожную хвіліну жыцця і напоўніць яе радасцю. Няхай Святы Дух адорвае сваімі бясконцымі ласкамі, а міласэрная Маці Божая трымае ў сваёй апецы. Мы вельмі Вам удзячны за глыбокую чалавечнасць, за прыклад шчырай і сапраўднай веры, а таксама за ахвярную працу.

*З малітвай Аліцыя і Віталій Варанавы са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Лішко з нагоды Дня нараджэння і заняцця пасады прэфекта Гродзенскай ВДС ад шчырага сэрца жадаем мноства Божых ласкаў: здароўя, моцы, радасці, шмат сіл для абвяшчэння Божай праўды і няспыннай апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень душпастарскай паслугі. Няхай Бог, які паказаў Табе шлях да святарства, дапамагае ў рэалізацыі Божых планаў, а Святы Дух спасылае свае шчодрыя дары.

*Цёця Марыя і яе сям’я з Гродна*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Барысевічу дасылаем сардэчныя віншаванні з нагоды 5-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў. Жадаем здароўя, радасці ад паклікання і Хрыстовай любові. Няхай Вам заўсёды спадарожнічае Божая ласка, святло Святога Духа і заступніцтва Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Мы ўдзячны Богу за тое, што выбраў Вас з многіх, а таксама за тое, што паслаў на наш шлях такога цудоўнага святара і сапраўднага гаспадара нашага касцёла.

*Удзячныя парафіяне з Наваельні*

Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, мноства Божых ласкаў і апекі Маці Божай. Няхай промні ад міласэрнага Сэрца Езуса заўсёды асвятляюць Ваш шлях, а побач будуць толькі добрыя і зычлівыя людзі.

*З малітвай і павагай Марыя і Казімір з Новага Мішэля*

Паважаны Ксёндз Пробашч Ян Рушніцкі!
У Твой Дзень нараджэння
хай Бог дасць мноства ласкаў,
Пакліканне ўзмацняе,
бароніць, калі трэба,
І просты, верны шлях паказвае да Неба.
Сэрцам сваім святарскім
спявай Яму ў падзяку
За службу для Хрыста, за
вялікую адзнаку.
А мы Твой дзень усмешкаю
сваёй адорым
І пажаданні ўсе свае ў малітву ператворым.

*Сем’і Стэцкевічаў і Васільевых*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Роўбу з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Маці Божая атуляе Вас плашчом сваёй мацярынскай любові, св. Заступнік нястомна Вамі апекуецца, а побач заўсёды будуць добрыя і чулыя людзі. Шчасці Божа!

*Парафіяльны камітэт з Вавёркі*

Паважанаму Ксяндзу Алегу Кудэрку з нагоды 6-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем: няхай усемагутны Бог нястомна адорвае Вас сваімі ласкамі і блаславеннем, а Ваша святарская паслуга прыносіць шчодры плён у людскіх сэрцах. Няхай Маці Божая Міласэрнасці заўсёды чувае над Вамі і будзе заступніцай і дапаможніцай у кожную хвіліну Вашага жыцця, а радасць і шчасце няхай напаўняюць Ваша святарскае сэрца.

*З малітвай і павагай парафіяне з Аўгустоўка*

Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму з нагоды 14-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем радасці, усмешкі, здароўя, шчасця, Божага блаславення, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Маці Божай на кожны дзень душпастарскай паслугі.

*Ружанцовыя колы св. Міхала Арханёла і МБ Вастрабрамскай з Капцёўкі*

Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастарскай працы, апекі Найсвяцейшай Маці і св. Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа і шмат прыгожых хвілін на святарскім шляху. Няхай міласэрны Бог штодзённа Вас блаславіць, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі.

*Былыя парафіяне з в. Галавенчыцы*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу хочам выказаць шчырую ўдзячнасць за арганізаваную для дзяцей паездку на хакей у г. Мінск. Моцнага Вам здароўя на доўгія гады, поспехаў у душпастарскай працы, а таксама нястомнай радасці на кожны дзень.

*Удзячныя бацькі і дзеці суботніцкай парафіі*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6766; тыраж 6600; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная